ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 26 (2552)
ПЯТНІЦА
25
чэрвеня 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

# КРЫЛАТАЕ СЛОВА КУПАЛЫ

Творчы калектыў Беларускага тэлебачання падрыхтаваў і паказаў спектакль «Па шчасце, па сонца...». Гэта спроба даць экраннае жыццё вершаванаму слову Янкі Купалы. Па сутнасці, аўтары разгарнулі ў спектаклі толькі першыя старонкі паэзіі выдатнага песняра: паказана цяжкае жыццё беларускага працоўнага ў перадрэвалюцыйны час. З багатай спадчыны выбрана самае яркае, здольнае набыць гучанне разам з паказам жывога выканаўцы, — атрымалася новая па жанры перадача паэтычнага тэатра, якую з цікавасцю сустрэлі шматлікія гледачы. Спектакль у пэўнай ступені эксперыментальны, магчыма, у нечым спрэчны. Задача перад аўтарамі стаяла вельмі складаная — амаль без каментарыяў даследчага характару наблізіць да аўдыторыі купалаўскае слова, зацікавіць і тым, што ў гэты час паказваецца на экране, і тым, што гучыць, каб адно не замінала другому. Калектыў, які працаваў над пастаноўкай, меў на мэце даць адчуць гледачам, што прадыктаваная рэальным жыццём, высокамастацкая паэзія Янкі Купалы давала ўсе падставы А. Луначарскаму сцвярджаць: «Бацькам новай беларускай літаратуры, якога беларусы невыпадкова параўноўваюць з Шаўчэнкам і па сутнасці яго паэзіі і па той ролі, якую ён адыгрывае ў іх роднай літаратуры, з'яўляецца, безумоўна, Янка Купала».

Рэцэнзію на спектакль «Па шчасце, па сонца...» чытайце на стар. 8.



За што, за што
Наш лёс такі,
За што, за што
Мы бедакі!?
— Скажы!..



...Не! Досыць, досыць! трудна далей
Цярпець, ціхія слёзы ліць!
Нічога мне, ой не, не далі,
А ўзялі ўсё, чым мог бы жыць...
...О, досыць, досыць! Сэрца ные,
Грыміць пагудкі новай звон...



Эх, бой,
Як стой,
[Заслуй],
Злаўчы,
Крычы,
Вваюй!..

сродкаў культасветработы. Мяркуйце самі — адзін эпідыяскоп на ўвесь раён!

Мала атрымліваем мы сцэнарыяў, метадычных распрацовак з рэспубліканскага і абласнога дамоў народнай творчасці. Пажадана, каб пры абласным Доме народнай творчасці быў адкрыты кабінет культасветработы, бо аднаго метадыста па клубах на вобласць недастаткова.

На нашу думку, варта ствараць раённыя саветы культуры. Добра, каб іх узначалілі сакратары райкомаў партыі або намеснікі старшынь райвыканкомаў. Гэты грамадскі орган змог бы шырэй абмяркоўваць і вырашаць пытанні дзейнасці клубаў і бібліятэк. Такі савет можа выклікаць і заслухаць не толькі культасветработніка, а і кіраўніка калгаса, саўгаса, сакратара партыйнай арганізацыі, старшыню выканкома сельскага Савета.

Савет культуры змог бы цэнтралізаваць пэўны працэнт адлічэнняў з культфондаў калгасаў для арганізацыі буйных раённых культурна-асветных мерапрыемстваў; святаў песні і працы, аглядаў мастацкай самадзейнасці.

Шчучынскі райком партыі і райвыканком, напрыклад, у прынцыпе падтрымліваюць такую прапанову. Відаць, у бліжэйшы час у нас такі орган будзе створаны.

У разгары лета, час напружанай працы хлебаробаў, час змагання за багаты ўраджай першага года новай пяцігодкі. Не застаюцца ў баку ад клопатаў хлебаробаў і культурна-асветныя работнікі раёна.

Усе нашы клубы распрацавалі ўжо мерапрыемствы па прапагандзе рашэнняў XXIV з'езда нашай партыі. Раённы Дом культуры і метадычныя цэнтры стварылі сцэнарыі і праграмы, якія прапагандуюць велічныя задачы новай пяцігодкі. Мастацкія агітбрыгады выступаюць на лугах і палетках, словам і песняй праслаўляюць перадавікоў працы. Ды і ў сценах клубаў праходзіць нямала цікавых вечароў.

Каб нашы клубнікі паспяхова выканалі сваю ганаровую місію, мы павінны вучыць іх, памагаць. Нездарма ж у метадычным кабінеце раённага Дома культуры вісіць лозунг-заклік: «Клубны работнік павінен быць добрым спецыялістам і выхавацелем. А гэта значыць—штодзённа вучыцца».

**Э. ПЕТРЫК,**
загадчык Шчучынскага раённага аддзела культуры.

**М. КРАЎЦОЎ,**
дырэктар раённага Дома культуры.



А. КАНДРУСЕВІЧ. Сонца і сланечнікі (гравюра)




Эдзі АГНЯЦВЕТ

# МУЗЫКА



Весела, задзірыста, задорна
Паравоз спявае ноту «соль».
Зноў гукаюць маладыя горны!
Што мне сцены цесныя і столь?

І займае дух ад прадчування.
Сціхні ў сэрцы, неразумны
боль!
Будуць зноў сустрэчы,
развітанні;
Соль жыцця —
і ў светлай ноце «соль».

## РОНДА

Кругавая, карагодная —
Ронда
на музычнай мове.
Выйшла ў круг каліна родная,
Закружылася ў дуброве.
Ты гары, калінніца, гары!

Не губляюцца каралі,
Колеры гарачыя.
Ці любілі вы, кахалі
Смела, па-юначаму?
Ты гары, калінніца, гары!

Быццам песня карагодная,
Закружы ты хлопцаў слаўных!
Я сама была падобная
Да цябе зусім нядаўна...
Ты гары, калінніца, гары!

## СКЕРЦА

Ты хутчэй прачніся!
Не заспі світання,
Тонкіх гукаў лісця,
Фарбаў трапятання.

Да вясновых светаценяў
Не пасуе лад мінорны.
Слухай рытмы
абуджэння—
рух імклівы,
дух задорны!

Пранікнёны,
ўдумны,
Слухай голас сэрца—
І адкажуць струны,
Бліснe промнем
скерца!

## БАРКАРОЛА

Гэты лодачнік не бачыў
Ні смуглявых гандальераў,
Ні Венецыі зялёнай
Пад салёнаю зарой.
У яго — бліскучы ветразь—
З глянцам белая папера,
Ён у рэчцы
бачыць мора,
Чуе,
як шуміць прыбой.
І малы вясляр вясёлы
Быццам выйшаў з баркаролы.
— Ты плыві далёка, ветразь,
Не палохайся вятрыскаў —
Ветравейных ветрагонаў,
Штармавых марскіх вятроў!
Над рачулкай—баркарола,
Уся блакітная ад пырскаў,
Ад падсіненага неба,
Ад сініц і васількоў.
Вербы хіляцца да долу
І гайдаюць баркаролу.

## АКТАВА

З чаго твая складаецца актава?
Тут хіба толькі восем галасоў...
Спачатку ўторыць ціхая атава
Таемным,
сінім гукам верасоў.
А потым уключаецца па праву
Мелодыя нязжатых каласоў.
Ляціць са звонам зорка
з небасхілу —
Гучыць актава,
набірае сілу.
І хутка да асіны трапяткой
Працягне ноту маладзік
двухрогі.

# ДРАМАТУРГ І ТЭАТР

*Пра гэта і многае другое, што хвалюе, перашкаджае далейшаму развіццю беларускай драматургіі, ішла гаворка на пасяджэнні секцыі драматургаў Саюза пісьменнікаў БССР пры ўдзеле прадстаўнікоў Міністэрства культуры рэспублікі.*

П. Макаля «Дай вады, калодзеж», лібрэта аперэты П. Харкова, на якое піша музыку Я. Глебаў. Хацелася б мець п'есы пра нашых сучаснікаў, каб у цэнтры іх быў вобраз станоўчага героя. На вялікі жаль, мы не можам прапанаваць тэатрам цікавых п'ес пра наш магутны рабочы клас, пра наша сялянства і моладзь. А яны нам вельмі патрэбныя, і мы іх чакаем. Чакаем таксама заявак, якія будзем уважліва разглядаць, заключаць дагаворы...

Вакол паведамлення Ю. Міхневіча разгарнуліся спрэчкі, у якіх прынялі ўдзел А. Вярцінскі, А. Махнач, А. Макаёнак, А. Бачыла, І. Шамякін, У. Караткевіч, М. Гарулёў, супрацоўнік міністэрства культуры БССР А. Сямёнаў, І. Мележ, І. Васілеўскі, К. Губарэвіч, У. Стэльмах, У. Юрэвіч.

Яны сказалі:

**А. Вярцінскі**. Два гады назад мы разам з Макалём напісалі п'есу і перадалі яе ў рэпертуарна - рэдакцыйную калегію Міністэрства культуры БССР. Ці не дзіўна, што столькі часу не можам даведацца пра яе лёс?

**А. Махнач.** Мая п'еса «Гаўрошы Брэсцкай крэпасці» ідзе ў Львоўскім тэатры юнага гледача. Спектакль неаднаразова адзначаўся прэміямі. Міністэрства культуры СССР набыло п'есу. А ў нас у Беларусі адносіны да яе вельмі стрыманыя. Рэпертуарна - рэдакцыйная калегія Міністэрства культуры БССР павінна больш дбайна адносіцца да сваіх нацыянальных драматургаў.

**А. Макаёнак**. Да таго, што гаварылася, магу дадаць, што вось ужо некалькі гадоў не можа ўбачыць сцэны п'еса Уладзіміра Караткевіча «Кастусь Каліноўскі». Мы ўжо абмяркоўвалі яе і зрабілі заўвагі, з якімі аўтар пагадзіўся. А што далей?.. На цэлы год раней пайшла і мая п'еса ў іншых рэспубліках. Гэта нельга лічыць нармальным.

Некалькі гадоў запар гаворым мы і пра тое, каб заахвочваць рэжысёраў, пры ўдзеле якіх ствараюцца спектаклі па п'есах беларускіх драматургаў. Але далей размоў пакуль што не пайшлі.

Трэба зрабіць заўвагу і ў адрас Саюза пісьменнікаў. Зусім незразумела, чаму доўгі час, кансультантам па драматургіі быў паважаны, але далёкі ад драматургіі чалавек. Цяпер таксама гэтая адказная справа аддадзена ў рукі не надта кампетэнтнага таварыша.

Сур'ёзная справа — пераклады драматургічных твораў. Рэдка ставім п'есы ўкраінскіх драматургаў. У рэпертуары нашых тэатраў няма п'ес суседзяў з Прыбалтыкі. А ў іх ёсць шмат цікавага.

**А. Бачыла**. Мы ганарымся, што выйшлі на ўсесаюзную арэну, але гэта проста шчаслівы лёс аўтараў, якіх ацанілі і паставілі. Наша ўпраўленне па справах мастацтва павінна смялей заключаць дагаворы. Трэба, каб як у добрага гаспадара, у міністэрстве былі п'есы ў запасе.

Ёсць таксама вострая патрэба ў часопісе па мастацтве. У такім часопісе і п'есу можна было б надрукаваць, і рэцэнзію, і праблемны артыкул.

**І. Шамякін.** Наколькі нам зразумела, рэпертуарны партфель міністэрства занадта тонкі. І, канечне, трэба прымаць самыя тэрміновыя меры, каб направіць справы.

Заказы, пра якія шла гаворка,—гэта добра. Але і самі драматургі не маюць права бяздзейнічаць. Сапраўдны пісьменнік павінен пісаць па закліку сэрца. А то што атрымліваецца? Восем месяцаў назад быў аб'яўлены конкурс на лепшую аднаактовую п'есу. Як я сёння даведаўся, на конкурс пакуль што паступіла толькі тры п'есы. Вельмі мала. А маленькая п'еса патрэбна для самадзейнасці, яе з нецярплівасцю чакаюць ад нас.

**У. Караткевіч.** Неяк так атрымліваецца: паставіў тэатр дрэнны твор — ніхто не адказвае. Загубіў добрую п'есу — таксама ніхто не адказвае. П'есу прынялі і не паставілі — зноў вінаватых не знойдзеш.

**М. Гарулёў**. Драматург напісаў п'есу. Што з ёй рабіць? Куды яе несці? У тэатр? У рэпертуарна - рэдакцыйную калегію? Куды? Рэпертуарна - рэдакцыйная калегія фактычна не можа вырашыць лёс п'есы, нават калі яна станоўча ацэнена. А тэатр не можа ўключыць у рэпертуар п'есу без згоды рэпертуарна - рэдакцыйнай калегіі. Нейкае зачараванае кола. Трэба, нарэшце, гэтае пытанне вырашыць.

**І. Мележ**. Са свайго сціплага вопыту павінен сказаць, што трэба быць вялікім аптымістам, каб пісаць п'есы. Слушна выступіў У. Караткевіч, калі гаварыў аб адказнасці тых, хто павінен дапамагаць драматургам. Трэба цвёрда памятаць, што лёс драматургіі залежыць не толькі ад драматургаў.

**І. Васілеўскі**. Драматург прыйшоў у тэатр з творам, які выпасіў, якому аддаў частачку свайго жыцця. І вось наступае доўгая пакутлівая паўза. У лепшым выпадку рэжысёр не мае часу, каб прачытаць п'есу, у горшым — недзе губляе яе.

**К. Губарэвіч**. Мне асабіста не вельмі імпануе форма дзяржаўнага заказу, але некаторых аўтараў папярэдняе заключэнне дагавораў дысцыплінуе, і таму ад такой формы работы адмаўляецца не варта. Трэба практыкаваць і конкурсы, якія, на маю думку, даюць свой плён.

**У. Стэльмах.** Шкада, што на нашым сённяшнім пасяджэнні няма рэжысёраў. Яны павінны не чакаць, пакуль прынясуць гатовую п'есу, а ўдзельнічаць у яе стварэнні, як гэта рабілі Л. Мазалеўская, К. Саннікаў і іншыя рэжысёры. Тут ужо гаварылі пра часопіс па пытаннях мастацтва. Усе рэспублікі ўжо маюць такія часопісы, а мы—не.

**У. Юрэвіч.** Мы пакуль яшчэ не маем п'ес пра нашых нацыянальных герояў, такіх буйных пісьменнікаў, як Янка Купала і Якуб Колас. Відаць, варта было б вярнуцца цяпер да п'есы Васіля Віткі «Шчасце паэта», дапрацаваць разам з тэатрам, узбагаціць яе нашым сённяшнім вопытам. Недаравальна мала ідуць у нас такія жамчужыны нацыянальнай драматургіі, як «Паўлінка» і «Раскіданае гняздо». У нас у рэспубліцы іх маглі б паставіць і ў рускіх тэатрах...

Пра многае гаварылі выступаючыя: пра тое, што ў апошнія гады ў Саюз пісьменнікаў прынята ўсяго некалькі драматургаў, і пра патрэбы народных тэатраў, і пра неабходнасць больш цесных кантактаў паміж Міністэрствам культуры БССР і Саюзам пісьменнікаў Беларусі.

# У САЮЗЕ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

22 чэрвеня адбылося пасяджэнне прэзідыума праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі сумесна з бюро партыйнай арганізацыі. На пасяджэнні быў зацверджаны план асноўных мерапрыемстваў праўлення СП БССР на другую палову года. У прыватнасці, запланавана правесці пашыраныя пасяджэнні прэзідыума, прысвечаныя вынікам V Усесаюзнага пісьменніцкага з'езда, абмеркаванню першых кніг маладых паэтаў і празаікаў. На адным з пасяджэнняў будзе разгледжана пытанне аб падрыхтоўцы да 90-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа. У кастрычніку мяркуецца правесці пленум праўлення з парадкам дня: «Стан і задачы беларускай літаратурнай крытыкі». У лістападзе адбудзецца рэспубліканскі семінар маладых літаратараў, а на пасяджэннях прэзідыума будзе абмяркоўвацца справаздача Гомельскага абласнога аддзялення СП аб рабоце з маладымі аўтарамі, заслуханы справаздачы пісьменнікаў, якія карысталіся творчымі камандзіроўкамі ў 1969-70 гадах.

Запланаваны паездкі груп пісьменнікаў на важнейшыя будоўлі, прадпрыемствы і ў калгасы рэспублікі, выступленні перад чытачамі, шэраг творчых вечароў, правядзенне дзён паэзіі ў Мінску і абласных цэнтрах.

На пасяджэнні быў зацверджаны новы склад Савета бюро прапаганды мастацкай літаратуры СП БССР: М. Аўрамчык, А. Вярцінскі, М. Гамолка, І. Грамовіч, А. Грачанікаў, П. Макаль, Ул. Мяжэвіч, А. Русецкі (старшыня), Я. Сіпакоў, М. Татур, М. Хведаровіч, К. Цвірка і М. Чавускі.

## ВІНШУЕМ З УЗНАГАРОДАЙ!

*За заслугі ў развіцці народнай творчасці і ў сувязі з шасцідзесяцігоддзем з дня нараджэння дырэктар Гродзенскага абласнога дома народнай творчасці, самадзейны кампазітар, заслужаны дзеяч культуры Беларускай ССР ШЫДЛОЎСКІ Аляксандр Канстанцінавіч узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.*

*ЧАЛАВЕКУ ГАВОРАЦЬ ДЗЯКУЙ*

# УЗАЕМНАСЦЬ

КАЖУЦЬ, што чалавек, які пасадзіў дрэва, пражыў жыццё не марна. Чалавек, пра якога пойдзе гаворка, вырасціў цэлы сад. Уявіце такі сад у квецені. Цвітуць яблыні, грушы, бэз, акацыя. У ружовыя воблачкі хаваецца зеляніна дрэў. Выкінулі белыя парасончыкі суквецці каліны, глогу. Ніжэй, зусім пры зямлі—блакітныя азёрцы незабудак, ружовыя астраўкі маргарытак, жоўта-белыя нарцысы і факелы рознакаляровых цюльпанаў. А над усім гэтым—водар бэзу.

Толькі закаранелы скептык пасаромеецца быць сентыментальным і не ўсклікне—які цуд! І гэты цуд раскінуўся на двух гектарах.

Калісьці тут былі руіны, потым пустка. Але прыйшоў чалавек, зрабіў урадлівай зямлю, кінуў у яе зярнятка. Вырасла з яго гнуткая цянюсенькае дрэўца, потым яно ўвайшло ў сілу і стала вялікім, дужым і цяністым. А пад ім, укрытыя ад гарачых сонечных праменняў, зацвілі кветкі, далі насенне. І зноў пасадзіў іх у зямлю чалавек. Кожную раслінку песціў, хаваў ад марозаў, паіў вадой у гарачыню...

Ёсць у Ружанах сярэдняя школа. У ёй працуе Уладзімір Іванавіч Рэкуць. У гэтых мясцінах ён нарадзіўся, тут жыў з бацькамі. Прыйшоў час абараняць сваю зямлю, — стаў салдатам. А скончылася вайна, вярнуўся ў родны край, пачаў працаваць настаўнікам. Спачатку ў малодшых класах, потым, скончыўшы інстытут, выкладчыкам хіміі і біялогіі. За шматгадовую дзейнасць узнагароджаны значком выдатніка асветы БССР, ганаровымі граматамі, юбілейным медалем. І ў гэтым яго лёс не адрозніваецца ад лёсу тысяч яго калег. І можа б не былі напісаны гэтыя радкі, калі б не адна рыса...

«Люблю прыгажосць», — кажа Уладзімір Іванавіч. І не баіцца, што словы гэтыя прагучаць напышліва альбо фальшыва.

Сваю любоў, сваю пяшчоту аддаў чалавек зямлі, і яна адарыла яго ўзаемнасцю. Ён расказвае пра свой сад, як шчаслівы бацька пра сваіх дзяцей. Гаворыць ён скупа, але колькі гордасці і замілавання ў голасе. Цюльпаны з Галандыі. Іх вывеў вядомы кветкавод Ле Фэбр. Гатункі «Матадор», «Лондан», «Прынц карнавала». Незвычайныя нарцысы — у іх маленькая белая чашачка і ярка-аранжавая сярэдзінка. Цвітуць у красавіку. Японская айва, кветкі ў яе незвычайнага апельсінавага колеру. Рабіна шведская. Астры сарака пяці гатункаў. Гладыёлусы трыццаці гатункаў. Дэкаратыўны лубін «Расел». Незабудкі з ГДР. Гваздзікі турэцкія, дэльфініум ціхаакіянскі (белы, ружовы, сіні, чорны, бэзавы), геспэрыс з пахам ляўкояў, флёксы дваццаці гатункаў, лілія каралеўская, лілія «Давід», аквілегія. Каля ста гатункаў вяргіняў, званочкі карпацкія, мак усходні. І яшчэ, і яшчэ нешта, што нават цяжка запомніць...

25 гадоў калекцыяніруе кветкавод расліны. І цяпер ужо прышкольны ўчастак не можа даць месца ўсім. Мноства кветак і кустоў вынесена на гарадскія скверы, вуліцы. Створаны сквер ля школы. Вучні школы толькі ў горадзе высадзілі сем тысяч кустоў і 72 тысячы кветак.

«Маглі б са сваімі юннатамі засадзіць увесь горад, толькі дайце нам месца», — гаворыць Уладзімір Іванавіч, і ў шэрых жывых вачах яго, ва ўсёй рухавай постаці гэтулькі энергіі, што верыш яму.

Ён не наракае на тое, што яго працоўны дзень пачынаецца не з васьмі, як у людзей, а з шасці раніцы. Вядома ж, толькі прачнешся, а ўжо рупіць паглядзець, што ўзышло, што расцвіло. Ды і работы на ўчастку—за дзень не пераробіш.

Таму і ўвялі ў Ружанскай школе гадзіну грамадска - карыснай працы. Кожны дзень на ўчастку дзяжурыць адзін клас. Гэта апроч урокаў працы і практычных заняткаў па батаніцы. Школьнікі капаюць, прыбіраюць участак, вырошчваюць і палiваюць расаду і яшчэ—вучацца разумець, любіць і цаніць зямлю.

З Уладзімірам Іванавічам падыходзім да школьнага парку. У дэндрарыі 180 дрэў і кустоў. Цяністыя алеі клёнаў, ліп, грабаў, а таксама бярозы, піхта, аксаміт амурскі, арэх маньчжурскі, лістоўніца, серабрыстая елка, каштан, дуб чырвоны, кізіл, шаўкоўніца, ліпа каўказская і... кані, берасцянкі, салаўі.

Вырашчанае з зярнятка, кожнае дрэва дужэла на вачах чалавека. Прывезенае з Далёкага Усходу, поўдня, захаду ці поўначы, яно прыжылося тут. Ніводнае не загінула. Ці месца тут такое, ці такія разумныя рукі і чулае чалавечае сэрца? А за плотам школы — пірамідальныя таполі. Трыста штук пасадзіў тут Уладзімір Іванавіч. І не дзіва, што чалавек, які вырасціў гэты аазіс, не ўяўляе сябе дзе-небудзь у іншым месцы. Ні ў Брэст, ні ў Мінск, куды запрашалі Уладзіміра Іванавіча кіраваць юннатамі, не паехаў. Кажа, чалавек павінен быць там, дзе знайшоў сваё месца. Ды і шкада кідаць увесь гэты зялёны востраў, у які ўкладзена частачка душы.

Слухаючы гэтага далікатнага, інтэлігентнага чалавека з нетаропкай ціхай гаворкай, падумалася адно... Многа ў нашых школах гаворыцца пра эстэтычнае і духоўнае выхаванне. Ствараюцца спецыяльныя методыкі. А гэты чалавек без лішніх слоў і спецыяльных методык штодзень выхоўвае ў сваіх вучняў самыя прыгожыя пачуцці. І дзе б яны ні апынуліся, кім бы ні сталі ў жыцці, гады, якія яны правялі побач з гэтым чалавекам, не пройдуць марна.

Р. БАКУНОВІЧ.

**У ЛІТАРАТУРНЫХ АБ'ЯДНАННЯХ**

# У ТВОРЧЫМ ПОШУКУ—САЛІГОРЦЫ

*Салігорск — малады шахцёрскі горад. Яму ўсяго дванаццаць гадоў. І тым не менш гэты горад стаў ужо цэнтрам горнахімічнай прамысловасці нашай рэспублікі. Яго прадукцыя — калійная соль — славіцца не толькі ў нас, у Беларусі, але і далёка за яе межамі.*

*Салігорцы не толькі штурмуюць нетры зямлі, не толькі будуюць камбінаты, фабрыкі і заводы. Многія з іх у вольны ад работы час выступаюць на сцэне, бяруцца за пяро. Пра тых, хто спрабуе свае сілы ў літаратуры, мне хацелася б расказаць крыху падрабязней.*

*7 лістапада 1959 года ў Салігорску выйшаў першы нумар шматтыражнай газеты «За коммунистический труд». З першых дзён свайго існавання шматтыражка стала клапатлівай збіральніцай літаратурных сіл Салігорска.*

*У канцы 1960 года пры рэдакцыі газеты было створана літаратурнае аб'яднанне. Яно дзейнічае і цяпер і, на мой погляд, адыгрывае прыкметную ролю ў творчым росце мясцовых паэтаў і празаікаў. Творы маладых літаратараў рэгулярна абмяркоўваюцца на пасяджэннях літаб'яднання. Лепшыя з іх трапляюць потым на старонкі газеты. Сіламі літаб'яднання штогод выдаецца рукапісны альманах «Радуга».*

*Актыўнымі членамі нашага літаб'яднання з'яўляюцца настаўнік сярэдняй школы № 1 Анатоль Крывіцкі, інжынер камбіната «Беларуськалій» Збігнеў Радабольскі, інспектар энерганагляду Мікола Лойка, рабочы Уладзімір Савіч, тэхнік-будаўнік Валянціна Міклашэвіч, студэнтка Міла Беразоўская.*

*Маладыя паэты і празаікі Салігорска актыўна ўдзельнічаюць у правядзенні гарадскіх культурна-масавых мерапрыемстваў. Яны выступаюць на літаратурных вечарах у школах, у маладзёжных інтэрнатах.*

Аляксей КУР'ЯН,
кіраўнік літаратурнага аб'яднання.

### Анатоль КРЫВІЦКІ



## ЗЯМНАЯ СОЛЬ

Пласты —
зямлі таемныя сцяжыны —
Па ўсіх кірунках леглі ўглыбіні.
Мільёны год у сувязі адзінай
Сцэментаваны моцна, як граніт.
Парушыць ціш спрадвечных
сутарэнняў
Ідуць шахцёры ў сівізну вякоў.
Па транспарцёрнай ленце у гудзенні
Цячэ зямлі
абуджаная кроў.
У ружаватым бляску сільвініта
Зіхцяць праменні дзён былых.
Няхай сцяной маё ўзрастае жыта
Паміж бароў спрадвечных і густых!
Жыве не казка даўняя ў народзе,
Што тут багацці у зямлі былі.
...А сонца светлым ранкам
узыходзіць,
Нібы ружовым скарбам з-пад зямлі.

## РАНАК

Тут над капрамі зоркі урачыста
Ад вечара да раніцы гараць.
А гляне ў вокны ранак прамяністы—
І шыбы, як люстэркі, зазіхцяць.
З будоўляў звонка ўзляцела песня,
Насустрач сонцу кран узняў руку,
І сіні морак па нізінах чэзне,
Вядуць вятры
світанне за раку.
І прападае у шахцёраў стома,
Калі з забоя
раніцай ідуць.
...А побач муляры у сцены дома
Цагліны з промнем сонечным
кладуць.

### Збігнеў РАДАБОЛЬСКІ



## ПРА ЎСМЕШКУ

Была яна шчырай,
ласкава-пацешнай,
Адкрытая ўсім
чалавечая ўсмешка.
Як яснае сонца,
усмешка свяціла,
Усіх саграваla
і ўсіх весяліла.
З ёй холад—не холад
і вецер—не вецер,
Ніякія беды
не страшны на свеце.
Сказалі не тое —
і радасць забыта,
Сказалі не тое —
і ўсмешка забіта.

Забіта... І шэрым
вакол усё стала,
Як быццам усмешкі
зусім не бывала.
За ўчынак бяздумны
вам будзе няёмка,
Але ўжо не склеіш
усмешку з асколкаў.

### Уладзімір САВІЧ



●

Мінулае крану я асцярожна,
Нібыта скрыпкі тонкую струну,
І выплывуць адтуль гады трывожна,
Зноў павядуць мяне цераз вайну.
Нялёгка да былога мне вяртацца —
Ад перажытага, здаецца, упаду.
Ды на мінулае я мушу аглядацца,
Каб пэўным быць, што правільна
іду.

### Мікола ЛОЙКА



●

Хадзіць — хаджу,
Глядзець — гляджу,
Ды часта ўсё ж мяне трывожыць:
А ці змагу
Пчаліны гуд
Ад гуду труценя адрозніць!

●

І ноччу сіняй
І ў дзень блакітны
Я то бяскрылы,
То з небам злітны.
То стане лёгка,
То цяжка стане,
То ёсць адкрыцці,
То зноў — чаканне...

●

Ты ў хату прынесла казку,
Спакой і ціхую ласку.
Было ў нас у хаце не цесна —
І ў нас пасялілася песня.
А з песняй прыйшла і пяшчота,
Асыпала ўсё пазалотай.
У хату ты шчасце прынесла,
Ты — казка мая і песня.

Яўген РАДКЕВІЧ



# ПЛЫНЬ ДНЯ

АПАВЯДАННЕ

У ПЯТНІЦУ прыехала бабуля і забрала дзяцей да сябе, паабяцаўшы, што прывязе іх вечарам у нядзелю. І аказаліся марнымі планы на выхадныя дні, якія меркавалася правесці з дзецьмі.

У суботу раніцай ён, як звычайна, рабіў зарадку, пасля абмываўся халоднай вадой пад кранам, а яна смажыла яешню з цыбуляй і каўбасой. Дзень, што толькі пачынаўся, здаваўся ім цяпер невядомым востравам, які трэба было адкрыць, даць яму назву і абжыць. Гэта магло прынесці безліч таямніц і самыя дзіўныя пачуцці — ад ціхага суму і расчаравання да ўсплёску радасці, калі адчуванні дасягаюць такой вастрыні, што перадаць іх можна хіба няхітрым воклічам: «Якое гэта шчасце — жыць!»

Тут, праўда, нічога не выйдзе без натхнення і фантазіі і яшчэ без таго духоўнага стану, які нараецца нячаста і з'яўляецца ўранні, калі расплюшчваеш вочы і ўжо ведаеш: у сённяшнім дні прыхавана для цябе нешта вельмі прыемнае, і табе трэба не забыцца адшукаць яго, не згубіць у звычнай мітульзе будзённых клопатаў.

Той дзень быў якраз такі, і яны ведалі гэта, і стараліся нічым не парушыць лёгкую яго плынь, што пачыналася вось тут, у гарадской кватэры. Размен дробных грошай у тралейбусе, свісток міліцыянера і яго знарок суровая размова з дзяўчатамі, што перабеглі вуліцу перад самым аўтобусам, веласіпедысты з мускулістымі нагамі, змаршчакаваты, што высушаны інжыр, твар кіяскёра, што збірае для вас пакункі газет — усё гэта потым стане таксама плынню дня, і галоўнае, зноў жа, у тым, каб рэзкім словам ці рухам не збіць, не спыніць яе, бо тады невядомы востраў знікне, а замест яго з'явіцца надакучлівы, здаўна знаёмы, з канца ў канец зведаны горад.

Яны разумелі гэта, і таму яна напаўголаса спявала недарэчную песеньку, у якой першы радок кожнага куплета паўтараўся тры разы, а ён галіўся электрабрытвай і слухаў па радыё апошнія паведамленні. Пасля снедання нехта павінен быў задаць пытанне. Гэта была гульня, і мела значэнне чыясьці непамятлівасць.

Гэты раз прайграла яна.

— Ну, што далей рабіць?

Ён быў напагатове, ён верыў у сваю перамогу і таму адказаў адразу:

— Мы ж рашылі яшчэ раней...

— Як раней? Ты ж ведаеш...

— Ну і што? Сур'ёзныя людзі ніколі не мяняюць сваіх рашэнняў.

— А гэта не будзе смешна?

— Няважна...

Яна недаўменна пацiснула плячыма. Калі даць ёй падумаць, можна ўсё сапсаваць, бо яна ўявіць сябе і яго на дзіцячым сеансе ў кінатэатры «Піянер», гэта ёй не спадабаецца і яна ўспомніць, што даўно не была ў сваёй сяброўкі, або проста збярэ нейкія дзіцячыя рэчы і да абеда знікне ў ваннай. Таму ён не стаў доўга чакаць.

— Мы возьмем пачатак ранейшага плана... Быццам нічога не змянілася... А потым як захочам...

І тады яна зразумела, гарэзліва пацалавала яго ў шчаку і зняла фартух...

Ім было крыху няёмка садзіцца ў маленькі вагончык, працягваць білеты дзяўчынкам у форме кандуктара, стаяць сярод крыклівай, жвавай і цікаўнай малечы і не сачыць за кімсьці трывожнымі вачмі, не тузаць і не павучаць кагосьці, не тлумачыць такія простыя рэчы, што нават не адразу знаходзіш патрэбныя словы — ім не хапала зараз бацькоўскіх клопатаў, якія за шэсць год сталі такімі звычнымі.

Таму на першым прыпынку, калі хлопчык — дзяжурны па станцыі — спыніў поезд, яны, не згаворваючыся, саскочылі з падножкі вагона і пайшлі ўзбоч шпал услед за поездам, які мільгануў чырвоным агнём апошняга вагона і знік за паваротам.

— І наогул, гэта свінства — у такі дзень ездзіць. Няхай сабе нават і на поездзе дзіцячай чыгункі, — сказаў ён.

— Шкада, што з намі няма дзяцей. Яны гэтак хацелі сюды, — сказала яна...

— У бабулі ім будзе не горш. Там дзед злавіў вожыка...

— Можа, нам лепей паехаць туды?..

— Нашто гаварыць пустое... Ты ж ведаеш...

— Прабач, я забылася, любы...

У панядзелак яму трэба было здаваць важную работу, і ён збіраўся працаваць сёння вечарам і ўвесь дзень заўтра... Але яна ўспомніла пра дзяцей і забылася...

— Каб ты толькі ведала, які я ўсё ж нягоднік... — з нечаканай горыччу сказаў ён.

— Што ты, любы?

— Які я ўсё ж нягоднік! Нельга сабе проста дараваць. Я гэта зразумеў зараз. Вунь бачыш той будынак?.. Не, не туды глядзіш. Справа ад высакавольтнай лініі. Ведаеш, што гэта такое? Школа, дзе я вучыўся да восьмага класа. І за пятнаццаць год ні разу туды не зазірнуць... Вой, вой, проста сорам.

— Калі хочаш, мы можам зараз туды схадзіць, — прапанавала яна.

— Не, зараз няварта. Па-першае, гэта таксама не вельмі прыстойна — у час прагулкі. Па-другое, там нікога няма сёння. І, наогул, трэба неяк спецыяльна сабрацца... З настроем...

Ён сапраўды адчуваў нешта падобнае на прыкрасць да самога сябе. Усе гэтыя пятнаццаць гадоў ён жыў непадалёк, паўгадзіны хадзьбы, але не часта ўспамінаў тутэйшыя мясціны, дзе жыў у дзяцінстве і вучыўся да восьмага класа, пакуль бацька не атрымаў кватэру ў цэнтры горада. Ранейшыя сябры спачатку прыходзілі ў госці, потым перасталі, бо і ў яго, і ў іх з'явіліся новыя заняткі і новыя знаёмствы. Тут нічога дзіўнага няма, але чалавек павінен час ад часу вяртацца ў старыя мясціны, каб аднавіць у памяці мінулае, паставіць яго побач з цяперашнім і зрабіць новую насечку на дрэве пазнання жыцця, бо мінулае, побач з цяперашнім — гэта і ёсць тое, што завецца вопытам і што перасцерагае ад памылак у будучым.

— Я ўсё тут прыгадваю нібы праз сон, — сказаў ён. — Божа ты мой, як змянілася ўсё... Ты бачыш, які завод... Не, гэта зусім новае месца...

Ён быў усхваляваны, круціў галавой, вохкаў.

Яна ішла побач, трымаючы яго пад руку, разумела яго і спакойна ўсміхалася, быццам тое, што яго ўразіла зараз, ведала даўно і паспела прывыкнуць да гэтага.

Яны прайшлі міма завода па асфальтаванай дарожцы, уздоўж якой шпалерамі стаялі маладзенькія таполі. Затым асфальт скончыўся, зноў пацягнулася побач з рэйкамі палаca гравію, па якім было цяжка ісці, бо камяньчыкі рассоўваліся пад нагамі з сухім шоргатам, а самыя маленькія траплялі між ступнёй і басаножкам, і тады яна спынялася і, трымаючыся адной рукой за яго плячо, здымала басаножак і вытрасала камяньчыкі.

За невялікай рачулкай, якая раней злучала ставы, калі тыя яшчэ былі, пачыналася ўзвышша — невысокія пляскатыя пагоркі і шырокія плаўныя лагчыны. Адразу за рэчышчам па ўсім узвышшы, як стары шрам, цягнулася зарослая травой і дробным хмызам нямецкая траншэя. Дзеці тут любілі гуляць у хованкі. За траншэяй пачынаўся густы сасоннік, які праразала пад высакавольтнай лініяй шырокая высечка, нібы хтосьці правёў машынкай па чупрыне волата.

Сасоннік гэты садзіў разам з усімі вучнямі школы і ён, — гады праз два пасля вайны, значыць, ляску зараз было больш дваццаці. Сасоннік рос на вяршыне пярэдняга пагорка, спускаўся на той бок па адхоне, але да лагчыны не даходзіў. Там бязладна раслі бярозкі, клёны і дубкі.

Шырокая сцежка, што адразу за рэчкай адбягала ад чыгункі і забірала ўлева ў гушчыню ляска, хутка праскочыла праз шчыльную сцяну сасонніка, а цяпер вілася па светлай лагчыне з купкамі дрэў.

— Змешаны лес, так званая ялова-дубовая падзона, — сказаў ён, лёгка ўспомніўшы навуковае вызначэнне.

— Чаму толькі ялова-дубовая? — не зразумела яна.

— Таму, што гэтыя віды найбольш сустракаюцца ў нашай мясцовасці.

Ён збочыў са сцежкі, прайшоў некалькі крокаў па мяккай зялёнай траве, спыніўся каля маладога клёна.

— Вось як бы ты апісала гэтае дрэва? — спытаў ён з выглядам хлапчука, які задаў цяжкую загадку.

— Як бы апісала? Трэба падумаць.

— Не, ты адразу.

— Адразу? — яна прыклала палец да вуснаў. — Ну, гэта клён. Ён прыгожы, таму што яшчэ не зусім распусціліся лісцікі, і таму, што ён цвіце

— Усё?

— Ну, ён малады. Відаць, гадоў дзесяць. А, увогуле, мне больш падабаецца бяроза. Глянь, быццам абгорнута зялёнымі карункамі. Такое пяшчотна-зялёнае, лёгкае стварэнне...

Ён не даў ёй даказаць:

— А зараз слухай мяне. Пра клён. Па-першае, назва яго правільная — клён вострalісты Патрабуе мала святла і вільгаці, расце хутка. Ты, бадай, адгадала, яму гадкоў каля дзесяці, а бачыш, які моцны. Зрэдку ў нашых лясах сустракаецца блізкі да гэтага белы клён, або явар, высокае дрэва з белаватымі прасветамі ў трэшчынах кары. Клён апыляецца толькі пчоламі, бо пылца схавана глыбока ў кветках, і гэтым ён падобны на прыгажуню магнолію крымскую...

— Вой, які ты разумны, страшна падумаць, — схапілася яна за галаву, і ў вачах яе быў прытворны жах. — Слухай, адкуль ты гэта ўсё ведаеш?

— Я вучыўся, — сказаў ён сціпла, не паказваючы, як задаволены.

— Я таксама вучылася, — сказала яна.

— Але я многа ездзіў, сустракаўся з разумнымі людзьмі...

Яна спахмурнела, на твары адбіўся смутак, што высноўваўся з даўнейшых самотных думак.

— Так, ты многа ездзіў, — ціха сказала яна. — Ты і чытаў больш, чым я, і, увогуле, мне ўжо не дагнаць цябе. А некалі ж я была выдатніцай. Скончыла з медалём школу.

Яму стала шкада яе. Сапраўды, яна мала чытала апошнія гады. А некалі, сустракаючыся з ёй у пару студэнцтва, ён павінен быў добра падумаць, перш чым нешта сказаць.

— Дарэмна ты перажываеш, — сказаў ён з пачуццём больш сталага і моцнага. — Усё справядліва. Ты за гэты час зрабіла не менш, чым я.

— Ты гэта лічыш справядлівым, — не супакоілася, а нават больш распалілася яна. — Гэта справядліва, што я шэсць гадоў толькі і ведала хадзіць цяжарнай, усяго асцерагацца, каб, крый божа, не пашкодзіць будучаму дзіцяці. А потым пачыналася... Пялёнкі, кармленне, хваробы — ні мінуты спакою — ні днём, ні ноччу... А ты ў гэты час ездзіў, сустракаўся з разумнымі людзьмі...

— Я ж табе дапамагаў, — паспрабаваў апраўдацца ён.

— Дапамагаў... Ашчасліўліваў дапамогай — лепш скажы. Ашчасліўліваў, калі табе дазваляла работа.

Усё, што яна гаварыла, было справядліва, вельмі справядліва і, хоць ён лічыў сябе вінаватым, гэтае пачуццё ўсё ж было не настолькі моцным, каб засланіць і другі бок жыцця — яго службу, таму што яна давала матэрыяльныя даброты, немалыя даброты, і сваёй службе ён павінен быў надаваць галоўную ўвагу, таксама, як дзецям і дамашнім клопатам — яго жонка. Так сказаць, падзел працы, які склаўся здаўна, і тут нечага бунтаваць.

Захацелася гэта растлумачыць ёй, але тады, падумаў ён, мы зноў распачнем тую бясконцую прыкрую спрэчку, якая толькі сапсуе настрой, цудоўны з рання, саб'е плынь дня. Таму ён зрабіў іншае...

— Я ў тваёй уладзе, — сказаў ён. — Удзячнасць, каханне, адданасць — усё, што я магу адчуваць, — гэта толькі для цябе. Вось бачыш, — і ён апусціўся перад ёй на калені.

— Устань хутчэй, — спалохалася яна. — Светлыя штаны, а ты на каленях па траве. Не выведзеш потым плямы.

Але настрой яе ўмомант змяніўся. Зноў каханне і мацярынская клапатлівасць жылі ў яе вачах.

— Ну, калі не хочаш так, я зраблю іншае...

З гэтымі словамі ён схапіў яе на рукі і панёс, а яна матляла нагамі, смяялася і казала ўсё: «Пусці, ну, пусці ж. Знайшоў пушынку».

Яна і праўда не была пушынкай, хоць постаць выглядала лёгкай і стройнай, але ён не адчуваў цяжару, бо ішоў і глядзеў у яе смяшліва-незадаволены твар, бачыў каля вачэй тонкую сетачку маршчынак — першую прыкмету старэння, і думаў, што яна і цяпер гэткая ж, як і раней, калі ён сустрэў яе вечарам на танцах ля інстытуцкага інтэрната, шчымліва-родная, любая, адзіная але зараз многа даражэйшая, бо з ёю падзелены ладны кавалак жыцця, якое цяпер належала не толькі ім самім, але яшчэ і дзвюм маленькім істотам, якія былі таксама яны, але ў нейкім іншым праяўленні — больш пяшчотным і бездапаможным.

— Любы, табе цяжка, пусці мяне, — яна замерла на яго руках, словы зляталі з яе вуснаў ціха, як з дрэў лістота.

Ён асцярожна апусціў яе на зямлю. Яна абцягвала плацце.

— Ну вось, нашто ты так? Стаміўся? Ведаю, што стаміўся. Ой, трэба пахудзець. А то разлюбіш.

— Ты самая лёгкая з таго, што мне калі-небудзь прыйшлося насіць. Бо ты — маё каханне.

Яна ўзяла яго за руку і прытулілася да пляча, і так яны ішлі, і прайшлі лагчыну, а потым зноў сасоннік, і калі сасоннік скончыўся, апынуліся ў сасновым бары.

Гэта быў незвычайны бор. Дзіўна, але яркасць сонечнага дня адчувалася больш тут, пад шатамі высокіх крон, што плылі, калыхаліся з глухім шумам у небе, як зялёныя аблокі. Высокая зялёная трава роўна і чыста ўсцілала дол, і на ёй варушыліся плямістыя цені вершалін.

Зачараваныя прыгажосцю, яны ішлі моўчкі.

## «ФИЗКУЛЬТУРНИКУ БЕЛОРУССИИ» — 20

Яшчэ ў старажытнасці казалі: «У здаровым целе — здаровы дух». Ну, а паняцце «здаровае цела», відаць, неаддзельнае ад паняцця фізкультура, спорт. Сёння фізічная культура — занятак, страсць мільёнаў і мільёнаў людзей усіх узростаў і прафесій. Таму такая папулярная ў нашай рэспубліцы газета «Физкультурник Белоруссии», якой споўнілася 20 гадоў.

Усе гэтыя гады беларуская спартыўная газета пастаянна і настойліва прапагандуе фізкультуру і спорт, расказвае аб дасягненнях спартсменаў нашай рэспублікі не толькі дома, але і на ўсесаюзнай і міжнароднай арэне.

Фізкультура і спорт заўсёды прыцягвалі ўвагу майстроў слова, мастакоў, работнікаў кіно. На старонках газеты можна часта знайсці рэцэнзіі на кінафільмы, прысвечаныя спорту, агляды мастацкіх выставак і твораў на спартыўныя тэмы.

Газета расказвае аб дзеячах літаратуры і мастацтва, якія аддаюць свой час спорту. Так, напрыклад, адзін з нарысаў быў прысвечаны маладому мінскаму скульптару Канстанціну Сароку, які некалькі гадоў назад захапіўся стральбой з лука, а зараз — майстра спорту СССР, рэкардсмен Беларусі, адзін з мацнейшых стралкоў краіны.

У газеты нямала верных сяброў, сярод іх пісьменнік Аляксандр Міронаў, народны артыст БССР Мікалай Яроменка, якія нярэдка выступаюць на старонках «Физкультурника Белоруссии».

За заслугі ў развіцці фізкультуры і спорту і ў сувязі з 20-годдзем газета «Физкультурник Белоруссии» ўзнагароджана Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР.

З. ПАУЛАУ.

# ЛЮДЗІ НЕ ЗАБЫЛІСЯ...

М. ЗАМСКІ,

спец. карэспандэнт «Літаратуры і мастацтва».

ТОЛЬКІ ШТО сплыла яшчэ адна гадавіна — трыццатая з пачатку Айчыннай вайны. Пра 22 чэрвеня 1941 года напісана немаведама колькі і цяжка, вельмі цяжка падабраць новыя словы... У каго ёсць памяць, той помніць, той заўсёды будзе помніць. У каго ёсць сэрца—яно трывожна заб'ецца толькі пры адным успаміне пра той чорны для нас дзень.

Успамін пра вайну — гэта ўспамін пра страшнае гора, якое абрынулася на ўсіх нас. Але да горкага пачуцця, якое выклікае слова «вайна», прымешваецца і пачуццё гонару, гонару за наш народ, што выстаяў, што перамог фашызм. І тыя, каму выпала вярнуцца з поля бою, сёння высока трымаюць галаву—гэта, як некалі трапна сказаў Пятро Вяршыгара, людзі з чыстым сумленнем.

І ўсё ж сёння гаворка пойдзе не пра іх. Хаця гісторыя, якую мне хочацца расказаць, таксама бярэ свой пачатак з вайны.

...Тое пісьмо, напісанае няроўным жаночым почыркам і выразку з «Известий» я перачытаў некалькі разоў. «Вайна прынесла вялікае гора ў нашу сям'ю — у час акупацыі ад голаду памерла мая двухгадовая дачка... Мой муж, Сідар Міхайлавіч, з першага дня вайны мужна змагаўся з фашыстамі. Яму пашанцавала — ён вярнуўся жывы. Але прайшло столькі гадоў, а шчасце і спакой не вярнуліся ў наш дом. Я і муж цяжка хварэем і няма каму нават падаць шклянку вады. Усе забыліся, што Сідар Міхайлавіч ваяваў. Ён нават ваеннай пенсіі не атрымлівае, хоць да вайны ўжо быў маёрам. Многія з тых, хто быў некалі ў яго падначаленымі, зараз займаюць высокія пасады, іх запрашаюць у школы, пра іх пішуць газеты. Толькі пра майго мужа забыліся. У яго нават медаля ніводнага няма. Ён ад усяго гэтага вельмі пакутуе, адсюль і ўсе хваробы...»

Выразка з «Известий» была датавана 13 ліпеня 1941 года і ў ёй расказвалася, як танкавы батальён, якім камандаваў Сідар Міхайлавіч, у першыя дні вайны знішчыў пад Пружанамі шмат танкаў праціўніка.

У той жа дзень я выехаў у Бабруйск, адкуль прыйшло пісьмо. У дарозе яшчэ і яшчэ раз перачытваў карэспандэнцыю і кіпеў высакародным гневам. Забыць пра такога чалавека! Хаця... хаця неяк спакваля нараджалася пачуццё трывогі—нешта тут не тое... Баявы афіцэр, франтавік і раптам такая няўвага да яго. Хаця, можа, чалавек вельмі сціплы, не лезе на вочы...

Прыцемкамі ўжо я адшукаў кватэру Шапаваленкаў (імя і прозвішча ў маім артыкуле зменены). З настрою пісьма мне чамусьці здалося, што туляцца яны немаведама дзе. Не, добрая двухпакаёвая кватэра ў новым доме. Гаспадар аказаўся пажылым ужо, мажным, грэнадзёрскага росту чалавекам, з голенай галавой. Падумалася, што вайсковая форма, відаць, сядзела на ім ладна.

— З Мінска? З газеты? Па нашым пісьме? Вой, вой ці варта было непакоіцца.— Крыкнуў у суседні пакой:— Маша, да нас госць!

Ветліва ўсміхаецца:

— Калі ласка, вельмі ўдзячныя...

І першае ж выпадковае назіранне — вочы гаспадара... вочы, якія, як быццам, жывуць асобным ад твара жыццём. Вось яны ўчэпіста і разам з тым насцярожана слізганулі па госці, пасля запытальны позірк на жонку.

— Праходзьце, госць дарагі...

Гэта гаворыць жонка — пад пару мужу поўная высокая жанчына.

У пакоі, на этажэрцы, вялікі партрэт ваеннага з дзвюма шпаламі ў пятліцах. А што, пазнаць можна.

Ужо сядзім, ужо размаўляем, як раптам Шапаваленка:

— Прабачце, ці не змаглі б вы паказаць ваша пасведчанне, ведаеце, ваенная звычка...

Вымаю рэдакцыйнае пасведчанне. Гаспадар доўга вывучае яго з той жа гасціннай усмешкай. Кідае ранейшы насцярожаны позірк на мяне, потым зноў у кніжачку. А, божачка, няўжо звярае фотакартку з арыгіналам?

Размова ў нас спачатку не вельмі ідзе. Ці мой візіт для гаспадароў раптоўны... Але ж пасылалі пісьмо, павінны былі чакаць.

— Ну, чаго ты, Сідар Міхайлавіч, маўчыш. Раскажы таварышу, як вайну пачынаў. Вы ў «Известиях» чыталі?

— Так, — кажу, — вельмі цікавая нататка.

Шапаваленка прыкметна ажыўляецца. Пачынае здалёк. У арміі ён аж з дваццаць сёмага года. Кадравік. Скончыў палкавую школу. Перад самай вайной насіў ужо дзве шпалы. Пачынае расказваць пра той бой пад Пружанамі.

— А чаго ты не расказваеш, як твой камандзір палка уцёк і кінуў цябе на волю лёсу,— напамінае жонка.

— Ага кінуў, хацеў я з ім звязацца па тэлефоне, ды дзе там... А тут немцы падбілі мой танк. Экіпаж загінуў, толькі я, паранены, выпаўз і тут жа страціў прытомнасць. Ачуняў ужо ў палоне.

Палоне? Дзіўна, у пісьме не было ні слова пра палон. Але, нарэшце, якое гэта мае значэнне.

— І доўга вы былі ў палоне?

— Да канца вайны. Нашы вызвалілі.

— Ну, а пасля?..

— А пасля... У пяцьдзсят шостым вярнуўся ў Бабруйск, я ж тут да вайны служыў, і пайшоў працаваць на будоўлю.

Пяцьдзесят шостым? Чакай, чакай, а дзе ж ён быў цэлых дзесяць гадоў?

— А дзе вы былі дзесяць гадоў?

Вочы вузенькай шчылінкай:

— Сядзеў, таварыш карэспандэнт. Вы ж ведаеце, як тады на палон глядзелі.

— Ведаю.

— Ну, дык вось, мне да гэтай пары той палон адгукаецца. Ні пенсіі ваеннай, ні ўзнагарод.

Я кажу Шапаваленку, што для пераважнай большасці людзей, якія ў вайну трапілі ў палон, то была не віна, а бяда. І што зноў-такі пераважная большасць палоннікаў паводзіла сябе ў тых фашысцкіх лагерах на рэдкасць мужна, гераічна. Нагадваю Дзевятаева, які здолеў захапіць фашысцкі самалёт і пераляцець на ім да сваіх. Яму было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Або герой Брэсцкай крэпасці маёр Гаўрылаў. Таксама трапіў у палон. І яму пасля была ўручана Залатая Зорка Героя...

— Як каму пашанцуе,— гаворыць гаспадар.—А са мной, бачыце, во як абышліся. А я пасля вайны працаваў сумленна.

Шапаваленка лезе ў шуфлядку стала і вымае вялікую папку.

— Во, зірніце,— паказвае цэлы стос акуратна падшытых грамат, падзяк, загадаў.

— А вы звярталіся куды-небудзь,— цікаўлюся я.— Скажам у ваенкамат.

— Хадзіў, дык ім чужое не баліць. Бюракраты.

Час позні ўжо. Я развітваюся з гаспадарамі і абяцаю, што заўтра пайду ў ваенкамат і ўсё высветлю.

Назаўтра раніцой іду ў Бабруйскі гарадскі ваенкамат. Ваенком, на жаль, нічога мне растлумачыць не можа, ён тут чалавек новы і пра Шапаваленку нічога не ведае.

— Хутка падыдзе мой намеснік, ён, відаць, у курсе.

Праз гадзіну з'яўляецца намеснік — невысокі чарнявы маёр.

— Шапаваленку ці ведаю? Так, ведаю. Пакрыўдзілі яго?— Бровы маёра паўзуць угору, а тварналіваецца чырваннем.— Ён прыходзіў некалі да мяне, прасіў, каб узнавілі яму воінскае званне, далі ваенную пенсію, узнагароды. Ну, што ж, мы нічога супраць не мелі. Не ён першы звяртаўся з такой прасьбай. Што быў у палоне, дык гэта яшчэ не злачынства. Тым больш, што ён «Известия» паказваў з заметкай пра сябе. Але праверыць мы абавязаны. Паслалі запытанне куды трэба. Праз некалькі тыдняў адказ: Шапаваленку судзіў ваенны трыбунал, як здрадніка Радзімы — у Германіі ён быў камендантам лагера ваеннапалонных. А камендантам гітлераўцы абы каго не ставілі. Ды і паводле паказанняў сведкаў паводзіў ён там сябе, як апошні мярзотнік. Выклікалі яго ў ваенкамат. Прыйшоў, усміхаецца. «Спадзяюся, — кажа — што заява мая задаволена». Тут ужо я не вытрымаў: «Ваша,— кажу,— шчасце, што ў складзе таго трыбунала не было мяне, вы б тады перада мной тут сёння не стаялі». Зірнуў ён на мяне з «любоўю», павярнуўся і пайшоў. А зараз, бачыце, зноў за старое, мо, думае, забыліся...

Не скажу, каб я з вялікай ахвотай зноў ішоў да Шапаваленкаў. Але даў абяцанне... Як і першы раз адчыніў дзверы сам гаспадар. Вочы ў вочы. Зразумеў. Адвёў позірк, крыва ўсміхнуўся.

— Бачу, вам нагаварылі там пра мяне хто яго ведае што. Гэта ўсё той ваенкамацкі маёр на мяне зуб мае. Помсціць за нешта. А я ні ў чым не вінаваты!— Апошнія словы Шапаваленка выкрыквае нечаканым для яго фальцэтам. З пакоя выплывае жонка і з дакорам глядзіць на мяне, хоць я не вымавіў яшчэ і двух слоў.

— Супакойся, Сідар Міхайлавіч, ты ж ведаеш, што няма праўды.

Шапаваленка робіць некалькі крокаў га калідорчыку, потым вяртаецца, спакойна гаворыць:

— Ну, а калі, скажам, і быў вінаваты, дык я ўсё жыццё павінен цярпець? Вунь з крымінальнікамі як цацкаюцца — пісьменнікі з імі перапісваюцца, міліцыя пра іх клапоціцца... А тут... Наша краіна такая магутная, няўжо не можа мне даравацць? Мне помсцяць, а помста ж вельмі непрыгожае пачуццё, яно не ў характары савецкага чалавека...

Патрэбныя словы часам да нас прыходзяць пасля. І ўсё, што я, відаць, павінен быў яму сказаць, нарадзілася потым, калі ехаў дамоў.

Бачыш, яму помсцяць. Не помсцяць, Гэта ўсё іншае. І тым ваенкамацкім маёрам, вядома, не помста кіравала. Вышэйшая справядлівасць гаварыла яго вуснамі. Бо няма больш агіднага, больш страшнага паняцця, чым здрада. І нічым, ніколі той пячаткі іуды не змыеш.

А мо і добра, што я не сказаў гэта Шапаваленку? Усё роўна, пустая трата слоў. Бо ў гэтага чалавека так і не адбылося суда над самім сабой, і калі ён пакутуе, а я гатовы гэтаму верыць, дык толькі ад усведамлення, што «не пашанцавала». І ненавідзіць за гэта ўвесь свет.

Некалькі гадоў таму ў Мінску праходзіў працэс ваенных злачынцаў — былой аховы аднаго з лагераў ваеннапалонных у Беларусі. На пытанне старшыні суда, што прымусіла злачынцаў стаць памагатымі гітлераўцаў, усе яны, без выключэння, давалі старэатыпны адказ: «Хацелася жыць». Як быццам тым тысячам вязняў, якіх яны заганялі ў душагубкі, расстрэльвалі, жыць не хацелася.

Інстынкт самазахавання? Калі так, дык у чыстым жывёльным выглядзе, не абцяжараны ніякай мараллю, уласцівай чалавеку.

Што ж, многія з тых нягоднікаў сапраўды засталіся жыць, праўда, іх у свой час не мінула караючая рука савецкага правасуддзя. Прайшлі гады і аказалася, што ў некаторых былых гітлераўскіх памагатых кароткая памяць. Яны лічаць, што зараз квіты, што адбыўшы пакаранне, так сказаць, кампенсавалі шкоду, якую нанеслі Радзіме ў час вайны.

Сапраўды, па нашых законах нельга двойчы караць чалавека за адну і тую ж віну. І чалавек, які адбыў пакаранне, карыстаецца, згодна з законам, усімі правамі. Той жа Шапаваленка атрымлівае прыстойную пенсію, будаўнічы трэст, дзе ён працаваў, даў яму двухпакаёвую кватэру. Але ж сёння падавай яму ўжо і павагу, і піянерскія зборы, і артыкулы ў газетах з яго партрэтам.

У Пухавіцкім раёне мне расказваў старшыня сельсавета, што адзін з мясцовых трактарыстаў — былы паліцай — паскардзіўся, што яго партрэт не змяшчаюць на Дошку гонару, хоць працуе ён не горш за іншых.

Нядаўна рэдакцыя атрымала пісьмо-скаргу са Столінскага раёна. Аўтар абвінавачвае ў бяздушнасці старшыню калгаса, які, быццам бы, супраць налічэння яму пенсіі. Мы пазванілі туды. Аказваецца, чалавек, які скардзіцца, а піша ён ва ўсе канцы, у часе вайны быў паліцаем, за што пасля асуджан савецкім судом. Цяпер ён патрабуе каб яму залічылі за працоўны стаж, у парадку выключэння, час, праведзены ў месцах зняволення. Матывіроўка — ён усе гады добра працуе ў калгасе...

Яны хочуць, каб людзі забыліся пра тое, што было. Яны любяць гаварыць пра гуманізм. Так, наша краіна — самая гуманная ў свеце. Але гуманнасць і ўсёдаравальнасць — розныя рэчы. І, нарэшце,— гэта нармальная чалавечая рэакцыя, хай і не адлюстраваная ні ў якіх законах — мярзотніку не падаюць рукі.

---

I без песень жа народ
Што ён варт быць можа?

ЯНКА КУПАЛА

ПОРЫ года вандруюць па маім жыцці. Яшчэ ў сэрцы жыве вясна, а ўжо трапяткія купальскія ночы будзяць у крыві патаемныя сполахі продкавых вогнішчаў. І прыпамінаецца не толькі даўніна, а і ўсё нядаўняе, што пeражыў я на бацькаўшчыне. Я зараз далекавата ад радзімы, і далеч між мною і ёй нараджае новую любоў. А ўсякая любоў патрабуе дзейнасці. І думкам няма супакаення.

Дзвіна тут робіць вялікі паўкруг, абмінае Лявонпаль, Чурылава і, выпрастаўшыся, коціцца ў бок Друі. Заходні бераг яе вышэйшы, чым усходні, і калі ісці са станцыі Бігосава, дык яшчэ здалёк відна зубчатая сцяна бароў. І вось я ля самай плыні ракі. А за яе тугой паласой—да глебінкі, да пясчынкі родная з дзяцінства зямля.

Сяргей

ПАНІЗНІК



Мёршчына, радзіма мая! І дзе б я ні быў, а як выпадзе хоць некалькі вольных дзён, прылятаю сюды—па шчырасць, па роднае незабыўнае слова, прылятаю на споведзь перад маім полем, перад людзьмі, на гасцінaчку прылятаю.

Нету лепшай ягадачкі,
Як у лесе брусніцанкі.
Нету лепшай гасцінaчкі,
Як у роднай матулечкі...

Дазволь, чытач, расказаць табе пра падарожжа «па ваколіцы, якая не заслугоўвае аніякай увагі, па ваколіцы, якая ў даўнасці мала чым сябе ўвекавечыла...» Прабач за чужаслоў. Але мне хочацца, каб ты і яшчэ крыху паслухаў з Уладыслава Сыракомлі, «вясковага лірніка»: «кожны куток зямлі, хоць бы на першы пагляд і не мае нічога надзвычайнага, можа быць прадметам вывучэння, а вывучэнне такога роду можа быць не без карысці ў нас, тым больш, што мы сваю зямлю так дрэнна ведаем». Сказаны гэтыя словы даўно, але ці не захавалі яны слушнасці сваёй і па сённяшні дзень? Таму дазволь, чытач, расказаць пра некаторыя адкрыцці майго кутка дзяцінства.

Спачатку я толькі ведаў, што яны існуюць і ў нашай мясцовасці. Чуў, як співаюць на вяселлях, калі бяруцца «лаўкі ламаць», узважваючы сваццю: сам аднойчы няўмела падыгрываў валачобнікам, калі іх музыка «вычарпаўся»; чуў іх на хрэсьбінах, калі кума і куму прымушаюць «мяць салому»...

Але толькі паездзіўшы па сінім свеце, паслухаўшы суседзяў, пачытаўшы пра тое, як людзі думаюць пра наш дарагі скарб—фальклор, захацелася і самому дакрануцца да вытокаў народнай творчасці. Падумалася, а ці не павучыць мяне «старых» песень бабуля Альжбета, якой на «малую пра-

---

# З БРАТНЯЙ ЛЮБОЎЮ

На Украіне любяць і ведаюць беларускую паэзію. Вялікая заслуга ў гэтым належыць нашым сябрам, украінскім паэтам і перакладчыкам, якія ўвесь час пільна сочаць за развіццём нашай паэзіі, натхнёна і таленавіта пераўвасабляюць творы беларускіх паэтаў, даючы ім голас і жыццё на братняй мове. Слоў самай шчырай удзячнасці заслугоўваюць пераклады з беларускай мовы А. Малышкі, Р. Кочура, М. Нагнібяды, У. Лучука, У. Лубкіўскага, М. Львовіч і многіх іншых сяброў нашай паэзіі. Варта нагадаць, што толь-

